Opłata pocztowa
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 6. Вільня, Пятніца, 23-га студзеня 1925 г. Год I.

## Да Беларускага Грамадзянства.

**ГРАМАДЗЯНЕ!** На Вашы дамаганьні Школьная Улада не адчыняе беларускіх школаў і не перατварае істнуючых польскіх школаў у беларускія. Вашы дзеткі або штрафам заганяюцца ў польскія школы, або застаюцца зусім бяз школы. Канстытуцыя-ж польская і языковая ўстава гарантуець Вам навучаньне дзяцей у сваей роднай школе.

Каб Вашы дзеці не марнаваліся дарма сёлета закладайце прыватныя беларускія школы.

У Віленшчыне і Навараградзкім Ваяводзтве кіруйцеся ніжэй пададзенай інструкцыяй. На Палескае і Беластоцкае Ваяводзтвы будзе абвешчана асобная інструкцыя.

**Ц. Б. Ш. Р.**

### Часовая інструкцыя.

Як адчыніць прыватную беларускую школу ў Навагрaдзкім і Віленскім Ваяводзтвах.

1. Калі школьная ўлада на жаданьне людласьці, згодна § § 3 і 4 уставы аб арганізацыі школьніцтва з 9.VII: 1924 г., не адчыняе пачатковай беларускай школы ў тых вёсках, дзе няма ніякай школы або не перατварае істнуючай польскай школы ў беларускую—трэба адчыняць прыватныя беларускія школы.

2. У Навагрaдзкім ваяводзтве (паветы: Навагрaдзкі, Валожынскі. Стаўпецкі, Лідзкі, Нясьвіжскі, Баранавіцкі і Слонімскі) ад свайго імя адчыняе Радашкоўскае Тавар ства Беларускай Школы (гор. Радашкавічы, Вялейскага павету), а ў Віленскім ваяводзтве ад свайго імя адчыняе Цэнтральная Беларуская Школьная Рада ў Вільні (Віленская 12—6).

**Увага:** Цэнтральная Беларуская Школьная Рада робіць захады, каб яе статут быў зацьверджаны на ўсю Заходнюю Беларусь.

### Парадак адчыненьня школы.

3. Вясковы сход ці група бацькоў (на прыватную школу не абавязкава, каб ад 40 дзяцей: можна і на меншы лік) пастанаўляюць адчыніць прыватную беларускую школу, дзеля чаго павінны наняць хату пад школу, згадзіць вучыцеля (калі такі ёсьць), улажыць сьпіс дзяцей, якія будуць хадзіць у школу і, калі ў Навагрaдзкім ваяводзтве, то паведаміць аб гэтым Радашкоўскае Таварыства Беларускай Школы, а калі ў Віленскім, то Цэнтр. Белар. Шк. Раду.

4. У паведамленьні павінна быць сказана: 1, у якой вёсцы, воласьці й павету закладаецца школа; 2, імя й прозьвішча жыхара, у хаце якога будзе памяшчацца школа; 3, далучыць сьпіс вучняў, якія будуць хадзіць у школу (неабавязкава 40) ды копіі дакумэнтаў вучыцеля.

5. Калі школа адчыняецца ў Навагрaдзкім ваяводзтве, то Радаш. Т-ва Бел. Шк., а калі ў Віленскім, то Цэнтр. Бел. Шк. Рада праз адпаведнага інспэктара ад сябе піша Куратару Школьнага Вокругу аб выдачы канцэсіі (г. з. дазволу) на тую ці іншую школу на Радашкоўскае Тавар. Бел. Шк. або Цэнтральнай Белар. Шк. Радзе, пасылаючы Куратару адначасна гэтакія дадзеныя аб школе: 1, у якой вёсцы адчыняецца школа; 2, у чым доме памяшчаецца; 3, колькі мае аддзелаў; 4, праграму школы; 5, плян выкладовых гадзін; 6, сьпіс вучняў; 7, копіі дакумэнтаў вучыцеля аб адукацыі, пэдагагічнай практыцы.

6. Адначасна, Рад. Та-ва Бел. Шк. ў Навагрaдзкім ваяводзтве, а ў Віленскім Цэн. Бел. Шк. Рада выдае вызначанаму вучыцелю пасьведчаньне на арганізацыю школы, а таксама і паўнамоцтвы на выпаўненьне фармальнасьцяў у воласьці, Школьным Інспэктарацe і Кураторыюме, якія датычаць школы.

**Увагі:** 1. Калі ў тэй ці іншай вёсцы ня знойдзецца адпаведнага кандыдата на вучыцеля, дык Цэнтр. Бел. Шк. Рада ці Радашк. Тав. Бел. Школы можа вызначыць свайго кандыдата.

2. Калі вызначаны вучыцель ня мае пасьведчаньня аб сканчэньні беларускіх курсаў, то Цэн. Бел. Шк. Рада ў Вільні ці Рад. Т-ва Бел. Шк. ў Радашкавічах можа выдаць часовае пасьведчаньне на заняткі ў беларускай школе, пад тым варункам, каб гэты вучыцель здаў экзамін на права навучаньня ў беларускай школе пры Экзамінацыйнай Камісіі Цэн. Бел. Шк. Радзе ў тэрміне да 1 чэрвеня г. 1925 г.

7. Як Школьная Рада сцьверцзіць, што ўжо школа з'арганізавана й пачынаюцца заняткі—можа выслаць у крэдыт падручнікі, а пры магчымасьці й грашавую дапамогу вучыцелю.

**Увага:** 1. На прыватную беларускую школу прыгавара можна й ня пісаць, але лепш было-б зрабіць адпаведную пастанову, пасьведчаную хоць толькі солтысам.

2. З Віленшчыны прыгавары прысылаць у Цэн. Бел. Шк. Раду, а з Навагрaдчыны ў Радашкаўскае Т-ва Бел. Школы. Школьнаму Інспэктару на прыватную школу можна і не пасылаць прыгавару.

3. Калі адчыніцца прыватная беларуская школа й дзеці будуць у ёй вучыцца, Інспэктар ня будзе мець права накладаць штрафы на бацькоў за тое, што іх дзеці ня ходзяць у польскую школу.

**Цэнтральная Беларуская Школьная Рада.
Вільня, Віленская 12—6.**



## Разьбітая ідэя.

Да сусьветнае вайны і вялікае расейскае рэвалюцыі ўсё расейскае грамадзянства, а перад усім расейская дзяржаўная ўлада не магла сабе прадставіць, каб у „единой“ Расеі маглі істнаваць нейкія *аўтаномныя* нацыянальныя тэрыторыі, а тым балей — каб Расейская імпэрыя магла перабудавацца ў *фэдэрацыю*. Проці аўтаноміі Фінляндыі вялася непрымірымая вайна, і ўрэшце яе з усіх бакоў абкарналі. І толькі крайнія рэвалюцыйныя партыі, разумеючы ўсю сілу ўкрытага ў паняволеных народах Расеі нацыянальнага рэвалюцыянізму, напісалі на сваіх сьцягах лёзунг *фэдэрацыйнае* Расейскае рэспублікі.

Аднак, калі выбухнула марцовая рэвалюцыя, тыя-ж расейскія рэвалюцыянеры „забыліся“ аб гэтым лёзунгу. Калі да тагачаснага прэм'ера, кн. Львова, зьявілася беларуская дэлегацыя з Менску і выставіла, сярод іншых дамаганьняў нацыянальнага характару, дамаганьне *аўтаноміі Беларусі*, галава рэвалюцыйнага ўраду прыняў яе дужа сьцюдзена і адказаў, што „рэвалюцыя высунула шмат важных пытаньняў, каторыя можа толькі вырашыць „Учредительное Собраніе“. Урад-жа расейскі сам у справе беларускай пачынаць ня будзе нічога. Словам, ад Львова беларуская дэлегацыя не дабілася нават ніякіх абяцанак“ *). Калі-ж народы Расеі адзін за адным пачалі *самі адрывацца* ад Расейскае дзяржавы і абвяшчаць сваю незалежнасьць,— усё расейскае грамадзянства аднялося да гэтага яўна варожа, разглядаючы такія акты, як... „дзяржаўную здраду“.

Аднак, факт стварэньня цэлага раду незалежных нацыянальных рэспублік быў лішне сільным ударам для ідэалёгаў „единой“ Расеі, каб старое прадстаўленьне аб дзяржаўным укладзе Расейскага гаспадарства магло астацца нязьменным. І вось першыя разрываюць сувязь з гэтай ідэалёгіяй бальшавікі, якія, пасьля доўгіх ваганьняў і крокаў то ўперад, то ўзад, скончылі тым, што вычыркнулі з карты народаў самае імя „Расея“, перαтварыўшы яе ў *Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік*, пабудаваных *на нацыянальным прынцыпе*.

*Фэдэрацыя* сталася ня тэорыяй, ня лёзунгам, а—*дзелам*.

Зусім натуральна, што і процібальшавіцкая Расея не магла не адгукнуцца на факты, перад якімі паставіла яе жыцьцё. І вось у 1918 годзе „ўрад“ генарала Юдзеніча, які распачаў кампанію проці бальшавікоў на тэрыторыі Эстоніі,—праўда, пад націскам Англіі!— абвяшчае, што незалежным балтыцкім рэспублікам: Эстоніі і Латвіі — „белы“ ўрад забясьпечывае аўтаномію, калі заваюе уладу над Расеяй. А сьледам за гэтым былы царскі міністар загранічных спраў, Сазонов, друкуе ў англійскай газэце „Times“ заяву, што, калі пад чужаземным націскам Юдзеніч абяцуе аўтаномію „інародным“ латышам і эстонцам, дык „будучая Расея“ з сваей уласнай і непрымушонай волі дасьць яшчэ шырэйшую аўтаномію „родным братом“—беларусам і украінцам..

*) Гл. артыкул В. Славуціча „Bielarusy i litoucy u 1917 hodzie“—„Krynica“ № 3—1925 г.

Ведама, ні на адну мінуту нельга мець ілюзіі, каб „белы“ ўрад у Расеі шчыра і сумленна зьдзейсьніў гэтыя абяцанкі і пасулы, калі-б яму запраўды ўдалося перамагчы бальшавікоў. І мы падаем гэтыя факты затым, каб паказаць, якую эвалюцыю — хаця-бы толькі на словах — перажывае ідэя „единой Россіи“ пад магутнымі ўдарамі нацыянальна-незалежніцкага руху і нацыянальнае палітыкі радавае ўлады.

Мала таго: у сувязі з ідэяй новае інтэрвэнцыі ў СССР, у сувязі з мабілізацыяй врангелеўскае арміі і спробамі стварэньня „адзінага процібальшавіцкага фронту“ ў Заходняй Эўропе, прыходзіцца адзначыць яшчэ адну праяву адыходу ад ідэалёгіі „единой Россіи“.

Зусім зразумелая рэч, што, калі-б пачаўся нейкі эўрапэйскі „крыжавы паход“ проці СССР, дык найбольш пацярпелі-бы народы беларускі і украінскі, на землях каторых ізноў пачаліся-бы крывавыя бітвы. Значыць, трэба-ж нечым „задабрыць“ гэтыя народы.— З другога боку, трэба нечым „пераліцытаваць“, або прынамся не адстаць і ад бальшавікоў, якія ў аснову свайго дзяржаўнага будаўніцтва паклалі прынцып самастойнасьці нацыянальных тэрыторыяў. І вось, апэрэтачны „цар“ Кірыл, сядзючы заграніцай — на эміграцыі, склікаў адумысную прафэсарскую камісію, каб... выпрацаваць канстытуцыю „фэдэрацыйнае“ Расеі, якая была-бы праведзена ў жыцьцё „пасьля пабеды белых“....

Ясная рэч, што верыць у шчырасьць усіх гэных пасулаў „эміgranцкае Расеі“ — вельмі трудна. Уступкі гэныя робяцца *пад прымусам*, а ў душы ўсё гэныя расейскія эмігранты асталіся такімі, як былі і да вялікае рэвалюцыі. Аб гэтым сьведчыць найлепей той дух, які пануе хаця-бы сярод расейскае эміgranцкае моладзі, якая лятуціць аб панаваньні над „крамольнымі інародцамі“ і ўжо цяпер прабуе беларускі і украінскі рух фальшаваць рознымі арганізацыямі „бѣлороссовъ“ і „малороссовъ“.

Але ўсе гэтыя заявы і пасулы—гэта бясспрэчны *доказ сілы і магутнасьці нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэньня былых народаў Расеі*, прымусіўшых закаянных ворагаў сваіх публічна выракацца старое ідэалёгіі. *Маральна* гэтая ідэалёгія аканчальна збанкрутавала.

# Да польска-гданскага канфлікту.

### Прамова Старшыні Гданскага Сэнату.

„ПАТ“ падае вельмі вострую прамову, якую сказаў 16 студня на паседжаньні Сэнату яго Старшыня, д-р Сам, у справе канфлікту Вольнага Места з Польшчай.

Сцьвярдзіўшы дзяржаўную незалежнасьць Вольнага Места, Старшыня Гданскага Ўраду адзначыў, што на старожы гэтай палітычнай незалежнасьці і стаіць перад усім Ліга Народаў, якая йграе, апрача таго, яшчэ й ролю судзьдзі ў спорках паміж Гданскам і Польшчай.

Але Польшча не прызнае гэтай суверэннасьці (дзяржаўнай незалежнасьці) Вольнага Места, і Ліга Народаў неяк ня вырашыла зусім **яснай пастановай** гэтага галоўнага спрэчнага пытаньня.

Але гэтая суверэннасьць Гданска вынікае сама сабой з таго факту, што Вольнае Места заключыла ўжо некалькі самастойных тарговых дагавораў з замежнымі дзяржавамі, зьместам якіх зьяўляецца ахова правоў і інтарэсаў Гданска, як незалежнай дзяржавы, гэтыя дагаворы **зарэгістраваны, як міжнародавыя, у Лізе Народаў**, як таго вымагае яе статут... Ні водная дзяржава, апрача Польшчы, не адмаўляе Вольнаму Месту яго годнасьці, як незалежнай дзяржаўнай адзінкі... Але найцікаўней, што і апошняя ўмова **Гданску з Польшчай** з 9 лістапада 1924 г. — **таксама зарэгістравана ў Лізе Народау, як міжнародавая**, ды што гэты дагавор прадставіла для рэгістрацыі ў Сэкрэтарыяце Лігі **сама Польская Рэспубліка...**

Гэтым актам ня толькі Ліга Народаў, але і сама Польшча прызнала польска-гданскую ўмову — маючай **міжнародавы характар**, ці, іншымі славамі, прызнала Вольнае Места Гданск, сувэраннай дзяржаўнай адзінкай.

Зразумела, што Польшча хоча зьмены гэтага становішча Гданска, зьмены істнуючых трактатаў, на якіх яно абапёрта праўна; але, на шчасьце, гэтая **зьмена ня можа адбыцца бяз згоды** самога места Гданска, як аб гэтым зусім выразна кажа спэцыяльны артыкул 30 Парыжскай Канвэнцыі...

Дык вось, Старшыня заяўляе ад імя Гданскага Сэнату, што Гданск не згаджаецца ні на якую зьмену істнуючых умоваў...

У-ва ўсіх спрэчных справах з Польшчай, Гданск займае **абаронную пазіцыю.**

Тое, што польскі ўрад зрабіў самачынна з паштовымі скрынкамі, найляпей даказывае, што ня Гданск, а Польшча, нарушае дагаворы і гвалціць зусім выразныя і правамоцныя пастановы Высокага Камісара. Кожнаму ясна, што сутнасьць спрэчкі — зусім не ў павешаных польскіх скрынках, але — у тым, што Польшча хоча фактычным, але ня праўным, актам самачыну („самасуду“ п. мін. Тугутта) захапіць у свае рукі ўсю паштовую службу ў Гданску, якая зьяўляецца аднэй з функцыяў (чыннасьцяў) і праяваў дзяржаўнай улады наагул.

Трэба сцьвярдзіць і тое, што Польшча нарушыла сваім „самасудам“ зусім выразную пастанову Высокага Камісара Лігі з 25.XII.1922 г., забараняючую польскай уладзе вешаць якраз польскія паштовыя скрынкі і мець сваіх паштальёнаў дзеля разноскі пошты па месьце...

Польскае грамадзянства, гэтак абуранае на Гданск, відаць, папросту ня ведае аб гэтай пастанове Высокага Камісара...

Далей Старшыня Гданскага Сэнату гаварыў аб прамове мін. Тугутта на канфэрэнцыі журналістаў, у якой зьмешчаны ня толькі непраўдзівыя факты і тлумачэньні, але і абраза годнасьці Вольнага Места, а перад усім нягодныя закіды аб нейкім „нямецкім пляне“, які выконывае Гданск...

Кожнаму ясна, што ўвесь канфлікт выкліканы не „нямецкім“, а **польскім плянам**, які мае выразнай мэтай затапіць Гданск польскімі ўрадоўцамі і — абмяжаваць сувэрэннасьць Вольнага Места.

Што гэта — так, ясна ўжо з таго, што цяпер ужо Польшча (мін. Скшыньскі і Тугутт) першы раз адкрыта пачала афіцыяльна гаварыць аб нейкім „пратэктараце“ Польшчы над Гданскам...

Вольнае Места — усе яго вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы — **катэгарычна адкідаюць гэты „пратэктарат“, які ня мае ні якой падставы ў Вэрсальскім Трактаце!**

На моцы гэтага Трактату Гданск знаходзіцца **пад пратэктаратам аднэй толькі Лігі Народаў**, якая, як пераконана ўсё насяленьне Гданску, патрапіць абараніць палітычную і эканамічную вольнасьць нашага места ад усялякіх атак з боку Польшчы...

Бо-ж цяпер апошняя мае канфлікт ужо ня з Гданскам, але — з самой Лігай Народаў...

### Да Гаагскага Трыбуналу.

Англійскія газэты пішуць быццам Ліга Народаў перадасьць аканчальнае вырашэньне польска-гданскага спору „Трыбуналу Справядлівасьці“ ў Гаазе (?)

### Генаральны Сэкрэтар Лігі аб канфлікце.

Данцыгскія газэты паведамляюць, што Генаральны Сэкрэтар Лігі афіцыяльна паведаміў Сэнат Гданска, што ў справе польскай пошты ня прыме ніякіх мераў, пакуль ня дасьць свайго заключэньня Высокі Камісар Лігі Народаў у Гданску (? здаецца ён ужо высказаўся зусім выразна!?).

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### У бюджэтнай камісіі.

На паседжаньні бюджэтнай камісіі зрабіў даклад аб бюджэце п. Міхальскі, б. мін. фінансаў.

Дакладчык сцьвярдзіў крытычны стан усей гаспадаркі дзяржаўнай Польшчы.

Ад жніўня пачаўся найцяжэйшы пэрыад гаспадарчага крызісу ў Польшчы. Ад ліпня расьце дарагоўля, безрабоцьце, убожства вёскі, труднасьці ў прамысловасьці. Стан вясковае гаспадаркі — падстава эканамічнага здароўя і моцы Польшчы— катастрафічны. Няма збожжа на насеньне, няма хлеба на спажыцьцё, няма крэдыту, няма заробкаў дома, але няма магчымасьці і эміграваць заграніцу... Няма сельска-гаспадарчых машынаў, штучных гнаёў, няма капіталаў на найканешнейшыя паляпшэньні ральлі і гаспадаркі.

# ПІСЬМЫ З ЛАТВІІ.

*Ітогі і пэрспэктывы.*

Падзеі, адбыўшыяся за апошняе паўгоду ў жыцьці беларускае меншасьці ў Латвіі, прымушаюць акінуць вокам пройдзены шлях, падвесьці ітог беларускай культурнай працы, праробленай за 4 гады, і пастарацца скрозь туман разглядзець нарысы будучыні.

Надыходзіць дзень суда над усімі адказнымі беларускімі нацыянальна-культурнымі працаўнікамі, зачынены Беларускі аддзел асьветы, касуюцца асноўныя правы беларускае меншасьці, чорныя хмары навісьлі над беларускімі школамі.

Гдзе крыніца ўсяго гэтага, у чым ляжыць прычына гэтага незразумела і нечакана пачаўшагася ўціску, чаму белае да гэтага часу ў беларускай працы цяпер лічыцца чорным і чорнае белым, чаму ўчарайшыя прыяцелі робяцца ворагамі, а ўчарайшыя ворагі гатовы працягнуць руку помачы?

Тая хваля, якая цяпер затапляе беларусаў у Латвіі, не з аднаго ручайку стварылася і не адных беларусаў залье. Вось-жа, каб зразумець матывы гэтага пэсымістычнага вываду, трэба зрабіць некаторы дасьлед і, прыняўшы за аснову дасьледу параўнаўчы мэтад, аглянуцца ў мінуўшчыну.

1918 год. Рэвалюцыя. Стварэньне маладых дзяржаў. Перад новымі дзяржаўнымі палітыкамі ўстаюць заданьні дзяржаўнага будаўніцтва, а разам з тым пытаньне тактыкі ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Абвясьціўшы для замежнага сьвету высокія і прыгожыя лёзунгі, аддаўшы гэтым дань часу, яны ў сваей хатняй працы перш за ўсё павінны былі грунтавацца ня стольки на сьвятых і вялікіх ідэях, сколькі на цьвярозым прынцыпе „рэальнага адношаньня сіл“. Толькі, падлічыўшы ўсе элемэнты, складаючыя жывую сілу дзяржавы, магчыма было ўзяць за аснову свае ўнутранае палітыкі ці грубы нацыяналістычны шавінізм, ці асьцярожную нацыянальную талерантнасьць.

Гэтыя дзьве сыстэмы з большымі ці меншымі нахіламі ў той ці іншы бок характарызавалі ўнутраную палітыку ўсіх маладых дзяржаў, але асабліва яскрава выявілася ў Латвіі і Польшчы.

І тая, і другая аднолькова ўрачыста прызналі правы меншасьцяў. Але ў той час, як Польшча, аднесшыся з пагардаю да помачы меншасьцяў, вырашыла пакладацца выключна на свае польскія нацыянальныя сілы і з першага дня свайго моцнага істнаваньня стала на шлях нацыяналістычна-шавіністычны,—у той самы час Латвія, на першых кроках свайго дзяржаўнага жыцьця, не зарызыкавала адразу адмежавацца ад меншасьцяў, а, наадварот, наданьнем ім шырокіх правоў вырашыла прыцягнуць да сябе іх сэрцы і душы, а разам з тым выкарыстаць і розум іх для дзяржаўнага будаўніцтва.

Гэта, зразумела, выклікала і адпаведнае адношаньне меншасьцяў: у Польшчы—пабудаванае на скрытым ці адкрытым нездаваленьні з усімі вынікаючымі з гэтага кансэквэнцыямі, а ў Латвіі—ляяльна-патрыятычнае, пабудаванае на разуменьні сваіх абавязкаў перад дзяржаваю, якая ў меншасьцёвым пытаньні зьявілася адразу прыкладам здейсьненьня лепшых ідэяў новага часу. Як вынік гэтага, меншасьцёвая інтэлігенцыя Латвіі ад першага дня аддала ўсе свае сілы для агульнай працы над будаўніцтвам Латвіі.

Праходзілі гады.

Польская палітыка ў адношаньні да меншасьцяў рабіла тыя ці іншыя зыгзагі, але заставалася заўсёды адкрыта шавіністычнай, заўсёды пагардлівай і адкрыта варожай. У залежнасьці ад гэтага нават ляяльна настроеныя адзінкі, не гаворачы ўжо аб масе, зьняверыўшыся ў добрай волі польскае ўлады, пачуўшы сябе грамадзянамі асобнага, апошняга разраду, сталі на шлях адкрытае ці скрытае барацьбы за свае правы. Барацьба гэтая вядзецца і цяпер, можа, доўга будзе яшчэ вясьціся, але меншасьці, гартуючы кожны дзень свае сілы, скіроўваючы іх у адзін бок і ідучы адным супольным фронтам, прымусяць сканцэнтраваным націскам, раней ці пазьней, да наданьня ім належных правоў.

Зусім ня тое мы бачым у Латвіі. Адразу, з першага дня ўсе меншасьці тут атрымалі правы, якіх ня мелі меншасьці ні ў ваднэй з новых дзяржаў. Гэтым Латвія, з аднаго боку, была забясьпечана ад нараканьняў, як меншасьцяў, так і суседніх дзяржаў, а з другога — магла ўсе свае сілы скіраваць на ўзмацаваньне свайго маладога арганізму.

Апрача таго, латышскія палітыкі вельмі добра разумелі, што ў чалавечай псыхіцы заўсёды знаходзіцца нейкі запас энэргіі, якая можа праяўляцца толькі ў барацьбе. А раз меншасьці ня будуць мець падставы пакіраваць гэтую энэргію ў бок Латвіі, то яны павінны будуць пакіраваць яе на змаганьне паміж сабою, асабліва, калі пачаць паціху запаўняць кожную меншасьць паасобку, што толькі ёй, толькі аднэй ёй, латышскія палітыкі спачуваюць усею душою. А далей меншасьці, падбураныя адна на адну, трацячы свае сілы на ўзаемную барацьбу, будуць у значнай меры абяссілены ўжо адным гэтым, бо ня будуць у патрэбны момант мець ні агульнае мэты, ні агульнае мовы. Але нават абяссіленая кожная меншасьць паасобку, у выпадку касаваньня якіх колечы яе правоў, ухопіцца за іх усемі сваімі рукамі. Каб унікнуць гэтага, каб пазбавіцца якога-колечы рашучага пратэсту, разьдзяліць нават гэтыя рукі, трэба зрабіць немагчымым выступленьне адналітым фронтам нават гэтай аднэй меншасьці, г. ё. стварыць у ёй варожасьць паміж асобнымі выдатнейшымі дзеячамі.

Адным словам, латышскія палітыкі ў аснову ўзялі прынцып „дзялі і пануй“, „divide et impera“.

І цяпер, акідаючы вокам мінулае, бачым, як тонка і асьцярожна гэты прынцып праводзіўся ў жыцьцё, і якія важныя вынікі для Латвіі ён даў за такі кароткі час. Меншасьці, з аднаго боку, абяссіленыя ўнутранай барацьбою, а з другога боку—усыпленыя абяцанкамі, выяўляюць цяпер, пасьля 6-ці гадоў такой палітыкі, у рэальным адношаньні сіл „зусім нязначную велічыню, і ўсе позныя спробы іх выступаць агульным фронтам спатыкаюць ці рашучы адпор (справа п. Вежбіцкага), ці дыплёматычныя ўхіляньні (справа нацыянальнае аўтаноміі, праект якой разглядаецца больш году).

Такім чынам, розная палітыка Польшчы і Латвіі ў меншасьцёвым пытаньні прывяла да розных вынікаў: у Польшчы—меншасьці ўпарта дамагаюцца сваіх правоў і разумеюць усю труднасьць іх атрыманьня, у Латвіі—меншасьці лёгка атрымалі свае правы і ня маюць сілы іх абараніць.

